# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА "Рух "За Свабоду". Выпуск № 12 снежань 2011




**З Калядамі і Новым годам!**

**Шаноўны сябра!**

**Шчаслівага і натхняльнага табе святкавання Калядаў і Новага года!**

**Хай яны падсілкуюць нас цвёрдасцю духу, шанцаваннем, здароўем, імпэтам, непахіснай верай у ідэалы незалежнасці, дэмакратычныя і еўрапейскія каштоўнасці!**

**Хай лозунг "Верым! Можам! Пераможам!" здзейсніцца і для цябе асабіста, і для нашай Беларусі!**

***P.S. Павіншаваць са святамі можна не толькі сваякоў і сяброў. Варыянты паштовак для палітзняволеных глядзі на апошняй старонцы.***




СА ЗБОРУ ЮРАСЯ НАВІЦКАГА

ПАЛІТЫКА

# Гадавіна Плошчы: дэжа вю

**Гадавіну Плошчы-2010 апазіцыя ў Мінску адзначыла круглым сталом і вулічнай акцыяй-успамінам.**

За круглым сталом сабраліся лідары апазіцыі: аналізавалася ранейшая палітычная сітуацыя, рабіліся прагнозы на будучыню, у тым ліку на выбарчую кампанію ў парламент у верасні 2012 года.

## На выбары – з умовамі

Лідар Руху "За Свабоду" **Аляксандр Мілінкевіч**, напрыклад, параўнаў прэзідэнцкія кампаніі 2001, 2006 і 2010 гадоў. Па ягоных словах, кожны раз была спроба рэалізаваць сцэнар каляровай рэвалюцыі.

На думку Мілінкевіча, на выбарах 2001 года фальсіфікацыі былі не такія вялікія, як потым, страху у грамадстве было меней, чымсьці цяпер. Лідар Руху шкадуе, што адзіным кандыдатам ад апазіцыі замест Уладзіміра Ганчарыка не стаў тады Сямён Домаш: "*Ён мог бы сабраць больш людзей*".

У 2006 годзе, са словаў Мілінкевіча, рэалізоўваўся сцэнар кіеўскага Майдану, калі быў разлік, што пасля першага дня мірнай Плошчы дэманстрантаў паболее. Ён адзначае, што тыя выбары праходзілі ва ўмовах максімуму эканамічнай стабільнасці і рэпрэсій. Нагадаем, сілавікі заяўлялі, што выхад на Плошчу будзе расцэнены як тэрарызм.

*"Улада не адышла, але Плошча прадэманстравала, што шмат людзей, асабліва моладзь, не баяцца, хочуць жыць у свабодзе і незалежнасці. Так, пасля гэтага ў Еўропе ніхто не казаў нам – давайце праз Маскву дэмакратызаваца*", – сказаў Аляксандр Мілінкевіч.

Ён заявіў, што ў 2007 годзе зразумеў, што апазіцыі, нават фармальна аб'яднаўшыся, цяжка быць цікавай для грамадства, якое задае пытанне "*чаму пры вас жыццё будзе лепш?*". Да ўсяго, быў падзел апазіцыі па геапалітычным прынцыпе. Мілінкевіч кажа, што прапаноўваў, каб апазіцыя была прадстаўленая двума блокамі, "*якія сябруюць супраць Лукашэнкі, але маюць розныя падыходы да геапалітыкі і розныя ідэалогіі*". Па словах лідара Руху "За Свабоду", няўдалай апынулася і спроба падысці да выбараў-2010 з левацэнтрысцкім і правацэнтрысцкім кандыдатамі.

На тыя выбары ён не пайшоў, каб не быць дзясятым па ліку кандыдатам і не змагацца з калегамі.


**Працяг на с.4**

# "Правілы мяняюцца заднім чыслом"

**Мінгарсуд не стаў разглядаць скаргу Руху "За Свабоду" на адмову ў рэгістрацыі мінскага гарадскога аддзялення арганізацыі.**

Нагадаем, Руху адмовілі ў рэгістрацыі ўсіх рэгіянальных філіялаў. Былі пададзеныя скаргі на гэтыя рашэнні. І суды ў Гродне, Брэсце і ў Мінску прынялі іх да разгляду, прызначыўшы пасяджэнні.

Першую такую скаргу пачалі разглядаць у пятніцу, 23 снежня, у Мінскім гарадскім судзе. Дакладней, павінны былі пачаць разглядаць.

Юрыст Руху **Андрэй Сушко** распавёў: "*Прадстаўнік Галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкаму заявіў хадайніцтва аб тым, што ў нас няма паўнамоцтваў прадстаўляць інтарэсы мінскага аддзялення Руху "За Свабоду" у судзе, што мы не мелі права падпісваць саму скаргу. То бок, суддзі было ўказана на яе памылку ў прыняцці скаргі да разгляду*".



GONZO.BY

У выніку яна (па сутнасці, пад ціскам) прыняла рашэнне аб адмове ў разглядзе скаргі.

"*Нам не даюць рэалізаваць права на свабоду асацыяцый і бараніць яго ў прававым полі. Прычым правілы мяняюцца ўжо ў працэсе гульні, заднім чыслом*", – пракаментаваў сітуацыю Андрэй Сушко.

Пасля адмовы ў рэгістрацыі кіраўнік мінскага аддзялення Руху **Юрась Меляшкевіч** сказаў, што "*тыя пытанні, на якія ўказана ў рашэнні калегіі галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкаму не ўтрымліваюць у сабе парушэнняў ні закона "Аб грамадскіх аб'яднаннях", ні інструкцыі Мінюсту аб парадку афармлення і разгляду дакумантаў, звязаных з дзяржаўнай рэгістрацыяй грамадскіх аб'яднанняў*".

Меляшкевіч звязваўся з прадстаўнікамі ўпраўлення юстыцыі і прасіў іх патлумачыць, якія канкрэтна нормы заканадаўства былі парушаныя: "*Бо тое, на што яны спасылаюцца, наадварот, пацвярджае нашую рацыю і неабгрунтаванасць рашэння калегіі. Але там нічога новага мне не змаглі сказаць, толькі паўтарылі фармулёўку ліста. З гэтага раблю выснову, што логіка прыняцця рашэння мае пад сабой не юрыдычную матывацыю, а палітычную*".

Спроба абскарджавання пацвердзіла гэта.

Сітуацыя паўтарылася і ў Гродне, дзе суддзя з уласнай ініцыятывы адмяніў сваё ж рашэнне прыняць скаргу наконт нерэгістрацыі мясцовага аддзялення Руху да разгляду.

# Рэпрэсіўныя папраўкі ў Закон "Аб масавых мерапрыемствах" у дзеянні

**Заяўка віцебскіх актывістаў апазіцыі на правядзенне 19 снежня акцыі, прысвечанай гадавіне прэзідэнцкіх выбараў, скончылася не толькі забаронай з боку мясцовых уладаў з тае прычыны, што да заяўкі не былі прыкладзеныя дамовы са службамі ЖКГ, медыкамі і міліцыяй.**

Арганізатара, лідара Руху "За Свабоду" ў Віцебскай вобласці **Хрыстафора Жаляпава** і заяўніка акцыі **Аляксея Гаўруцікава** (ён быў даверанай асобай Мікалая Статкевіча на выбарах-2010) выклікалі ў пракуратуру.

Жаляпаў знаходзіўся ў ад'ездзе, а таму прыйсці туды не змог, а вось Гаўруцікаў атрымаў афіцыйнае папярэджанне за абнародаванне на інтэрнэт-рэсурсах даты, часу і месца правядзення акцыі да атрымання дазволу на яе.

Пракуратура Віцебскай вобласці спаслалася пры гэтым на Закон "Аб масавых мерапрыемствах", які нядаўна стаў больш жорсткім: "*Згодна з ч.2 ст.8 Закона да атрымання дазволу на правядзенне масавага мерапрыемства яго арганізатар, а таксама іншыя асобы не маюць права абвяшчаць у сродках масавай інфармацыі, **глабальнай кампутарнай сеткі інтэрнэт** або іншых інфармацыйных сетках аб даце, месцы і часу яго правядзення, выпрабляць і распаўсюджваць з гэтай мэтай улёткі, плакаты і іншыя матэрыялы*".

Парушэнне гэтага парадку цягне за сабой папярэджанне, або спагнанне штрафу ў памеры 30 базавых велічынь, або адміністратыўны арышт.

"*Арганізатары паведамлялі аб тым, што яны падалі заяўку на правядзенне мерапрыемства, а не заклікалі людзей прыходзіць на акцыю да яе дазволу. Арганізатары дзейнічалі выключна ў рамках прававога поля пры падачы заяўкі, а супрацоўнікі пракуратуры перастрахаваліся. Можа быць, пераглядзелі сюжэтаў аб нядаўніх масавых акцыях у Расіі і вырашылі не дапусціць масавага таптання людзей у ціхім Віцебску. Як бачым, пракуроры чытаюць незалежныя інтэрнэт-рэсурсы і трымаюць руку на пульсе!*", – так пракаментаваў сітуацыю юрыст Руху "За Свабоду" **Андрэй Сушко**.

Адзначым, што такім чынам упершыню апазіцыянеры падвяргаюцца пакаранню за інфармацыю пра акцыю пратэсту ў інтэрнэце да дазволу на яе правядзенне.

# Не баршчом адзіным!

**“Калі Ярмошына лічыць, што жанчына мусіць варыць баршчы, чаму яна не сядзіць на кухні і не варыць боршч, а займаецца фальсіфікацыямі?”. Актывісткі дэмруху далі адлуп старшыні ЦВК пасля ейнага скандальнага інтэрв’ю.**

У інтэрв’ю Еўрарадыё Лідзія Ярмошына заявіла, што гатовая паўтарыць сваю нашумелую фразу пра падзеі 19 снежня 2010 года, што жанчыны “мусяць дома варыць боршч, а не па плошчах сноўдаць”. І зрабіла ў дадатак шэраг, мякка кажучы, рэзкіх заяваў на адрас беларускіх жанчын.

*“Я страшэнна расчараваная жаночай часткай маладога пакалення – яны агідныя маці, яны дрэнныя жонкі, яны не добрыя, не міласэрныя людзі. Таму – як хутчэй, трэба іх заклікаць да баршча, дзяцей, кніжак і гэтак далей. Я лічу гэтую фразу, а боршч – гэта тое, што патрапіла на язык, сімвалам хатняй утульнасці. Не абавязкова боршч – можна торт пячы. А яшчэ лепш – кніжку свайму дзіцяці пачытаць. Даўно гэтыя дамачкі, якія блукалі па гэтай плошчы, кніжкі сваім дзецям чыталі?”* – абураецца кіраўніц ЦВК. *“Калі чалавецтва загіне, то – па віне жанчын. Бо яны забываюцца на сваё прызначэнне жанчыны і маці”*, – заявіла ў працяг Ярмошына.

**Алена Ліхавід**, маці былога палітвязня Мікіты Ліхавіда, кажа, што Лідзія Ярмошына гэтымі сваімі выказваннямі *“зняважыла, можна сказаць, усіх мацярок Беларусі. Прычым яна не мае маральнага права. Да ўсяго можна быць добрай маці, гаспадыняй і мець актыўную грамадзянскую пазіцыю. І менавіта выражэннем сваіх поглядаў мы у тым ліку выхоўваем дзяцей. Каб яны ведалі сваю гісторыю і жадалі лепшага для сябе і сваіх нашчадкаў. Жанчыны, якія выходзілі на Плошчу, думаюць пра будучыню, хочуць, каб іхнія дзеці жылі ў вольнай краіне”*.



> Жанчыны, якія выходзілі на Плошчу, думаюць пра будучыню, хочуць, каб іхнія дзеці жылі ў вольнай краіне

**Марына Лобава**, маці палітвязнямаладафронтаўца Эдуарда Лобава: *“Не разумею, як можа кагосьці ацэньваць чалавек, які столькі разоў фальсіфікаваў выбары, пазбавіў беларускіх людзей і іх дзяцей нармальных умоваў жыцця. У нармальных еўрапейскіх краінах жанчыны паспяваюць і на працу хадзіць, і адукацыю атрымаць, і добрых дзяцей выгадаваць. Галоўнае – каб дзяржава стварала ўмовы, каб чалавек мог рэалізаць свае здольнасці. Дый калі Ярмошына лічыць, што жанчына мусіць варыць баршчы, чаму яна не сядзіць на кухні і не варыць боршч, а займаецца фальсіфікацыямі?”*.



**Таццяна Пашавалава**, Цэнтр сацыяльных інавацый: *“Забаўна чуць бурчанне з вуснаў асобы дзяржаўнага ўзроўню. Колькі існуе свет, сталае пакаленне наракае на моладзь. Што тычыцца магчымасці сумяшчэння актыўнай грамадскай пазіцыі, працы і сямейных абавязкаў – гэта тое, што жанчыны цалкам могуць рабіць пры жаданні, і гэта пытанне не правоў і паводзін жанчын, а наогул людзей і сям’і. Гэта ў такой самай ступені тычыцца і мужчын. Шмат прыкладаў такога ўдалага сумяшчэння пры вялікай нават колькасці дзяцей. А бываюць сітуацыі, калі без дзяцей чалавек нічога не дасягае і апускаецца. Таму гэта некарэктная пастаноўка пытання”*.



**Алена Фаміна**, грамадская актывістка з Віцебска, даверанная асоба экс-кандыдата ў прэзідэнта Дзмітрыя Вуса: *“Варыць суп і чытаць кніжкі – не ўсё, што павінна рабіць жанчына ў гэтым жыцці. Калі жанчына зразумела, што ў краіне нешта не так, то яна выйшла на Плошчу не прагуляцца, а дзеля сваіх дзяцей. Хай яна не прачытала адну казку, але яна выйшла даць ім лепшае. Так атрымліваецца, што і нам, жанчынам, даводзіцца прымаць удар, каб дамагчыся зменаў. Таму мы на Плошчы”*.



**Арына Лісецкая**, актывістка Руху “За Свабоду”, блогерка, кажа, што старшыня ЦВК сама не паказала ніводнага станоўчага прыкладу: *“І наконт сумяшчэння. У мяне два блогі. Адзін кулінарны, дзе я магу цётку Ліду навучыць нашмат лепей варыць боршч, а а таксама яшчэ эстэтыву размовы, другі – на “Рэху Масквы”, дзе я магу выказваць спакойна палітычныя погляды. І пра міласэрнасць. Лідзія Міхайлаўна, вось у вас няма ўнукаў, так паглядзіце колькі дзіцячых дамоў, вы каго-небудзь прывялі, каму-небудзь дапамаглі? Вы наогул ў царкву ходзіце?”*.



# Гадавіна Плошчы (працяг)

Пачатак на с.1

Апрача таго, зазначыў Мілінкевіч, апазіцыя абавязаная хадзіць на выбары з умовамі: "*Вось з такой простай: давайце лічыць галасы разам. Калі нас няма ў выбарчых камісіях, як спосаб – здымаемся, папрацаваўшы інфармацыйна*".

"*У палітыцы важная не толькі пазіцыя, не толькі план, стратэгія. Галоўнае – вынік. А вынік трагічны: народ прайграў шанец на еўрапейскую інтэграцыю, на цывілізаванае жыццё, улада прайграла, апазіцыя прайграла – Расія на 90% выйграла*", – рэзюмаваў палітык.

## Якасць кандыдатаў

Што тычыцца парламенцкіх выбараў у наступным годзе, то, па словах Мілінкевіча, Рух "За Свабоду" не будзе складаць канкурэнцыю палітычным партыям.

"*Але мы будзем займаць актыўную пазіцыю, – сказаў Аляксандр Мілінкевіч. – Наша пазіцыя: свае рэсурсы мы выкарыстаем на падтрымку тых, хто падзяляе нашыя прынцыповыя погляды. Гэта – дэмакратыя, незалежнасць і еўрапейскі шлях развіцця Беларусі*".

Па словах лідара Руху "За Свабоду", трэба рабіць стаўку на якасць кандыдатаў: "*Ёсць такія кандыдаты, якія памяншаюць рэйтынг апазіцыі*".

## Дэжа вю

Актывіст Руху "За Свабоду" **Мікіта Ліхавід** 19 снежня перажыў дэжа вю – ён зноў быў затрыманы, як і год таму, падчас акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў-2010. На акцыю да гадавіны Плошчы хлопец выйшаў разам з маці – і яны разам апынуліся ў пастарунку.

**Алена Ліхавід** атрымала траўмы галавы і рукі. У Мікіты – сінякі, парваная куртка. Але Алена Ліхавід, як і яе сын, калі распавядаў пра зняволенне ў калоніі, асабліва не хоча засяроджвацца на сабе – на нейкім геройстве ці пакутніцтве.




Круглы стол у сядзібе ПБНФ, прысвечаны гадавіне Плошчы.

"*Журналісты па гарачых слядах перабольшылі наконт таго, як мне дасталося. Вось каля Чырвонага касцёла сапраўды затрымлівалі жорстка*", – кажа спадарыня Алена.

Наогул жа дзеянні асобаў у цывільным Алена Ліхавід называе "*вельмі жорсткім прэвентыўным хапуном*". На ейнае ўражанне, тыя, хто яго чыніў, былі "*нібы замбаваныя*".

"*Іх быццам бы перад гэтым нацкавалі на адлоў людзей. Менавіта на адлоў. Бо гаворка пра нейкія правілы пра затрыманнях не вядзецца. На тварах – ніякіх эмоцый, апрача, бадай, задавальнення ад таго, што яны робяць. Будзе загад учапіцца ў горла – учэпяцца, не зважаючы, хто перад імі – старыя, жанчыны, дзеці. Я ўжо не кажу пра іхнія слоўныя абароты – шмат што, напрыклад, пра сябе пачула*", – кажа Алена Ліхавід.

## Брыдота

Алену і Мікіту Ліхавідаў праз некалькі гадзін пасля затрымання адпусцілі, а вось рухаўцаў **Арцёма Ляву** і **Юрася Шпака-Рыжкава** судзілі.

За дзень да суда на аснове рапартаў двух участковых інспектараў на затрыманых былі складзены пратаколы аб адміністрацыйным парушэнні паводле артыкула 17.1 КоАП ("Лаянка ў грамадскім месцы").

З пісьмовых сведчанняў міліцыянтаў вынікала, што затрыманыя актывісты, знаходзячыся ў Ленінскім РУУС у атачэнні дзясяткаў яго супрацоўнікаў, даволі працяглы час гучна лаяліся, паводзілі сябе агрэсіўна, не рэагавалі на заўвагі і просьбы міліцыянтаў спыніць бясчынствы, чым парушылі спакой і парадак ва ўпраўленні.

Абвінавачванні былі адрынутыя затрыманымі. Адзіны сведка з боку міліцыі на працэсе Арцёма Лявы не мог з упэўненасцю сказаць, як "парушальнік парадку" быў апрануты, які меў пры сабе пакунак.

Магчыма, довады міліцыянтаў не былі цалкам пераканаўчымі і для суддзі **Міхаіла Хомы**, які ўрэшце пакараў актывіста штрафам у 20 базавых велічынь – мінімальным з вынесеных у гэты дзень пакаранняў для затрыманых па палітычных матывах 19 снежня.

Іншы суддзя **Марына Запаснік** у той самы дзень сурова пакарала прыхільніка Руху Юрася Навіцкага (Шпака-Рыжкава). Ён атрымаў 15 сутак арышту. Суддзя адмовілася далучаць да справы аўдыёзапісы, якія маглі засведчыць невінаватасць Юрася. Яны былі затым выкладзеныя на сайце *Рух.by*. Там чуваць, што брыдкасловілі не затрыманыя, а супрацоўнік РУУС.

# Рэнты з Расіі: наступствы

**Канец года атрымаўся для Лукашэнкі вельмі ўдалым: ён здолеў забяспечыць далейшы прыток рэнтаў з Расіі.**

Гэтак, паводле пагадненняў, падпісаных 18 і 25 лістапада, Беларусь а) прадала "Белтрансгаз" "Газпрому" за $2,5 млрд (з гледзішча прадаўца, за надзвычай шчодрую цану); б) будзе атрымліваць расійскі газ па цане $165 за тысячу кубаметраў; в) атрымае пазыку на $1 млрд для "Беларуськалію" і г) дадаткова атрымае пазыку ў $10 млрд на будаўніцтва атамнай электрастанцыі. Расія выцягвае Беларусь з даўгавой ямы з некалькіх прычын.

Па-першае, набліжэнне прэзідэнцкіх выбараў у Расіі змусіла дзейную расійскую палітычную ўладу адкласці ў бок сваркі з прэзідэнтам Лукашэнкам, які дасюль карыстаецца папулярнасцю ў Расіі і ад якога чакаюць публічнага захаплення новай інтэграцыйнай рыторыкай Крамля. Можна меркаваць, што гэткі стан захаваецца прынамсі да 4 сакавіка 2012 г.

Па-другое, з вялікай доляй верагоднасці можна казаць, што Пуцін цягам свайго наступнага прэзідэнцкага тэрміну будзе надаваць вялікую значнасць праекту аднаўлення ролі Расіі як рэгіянальнай імперыі. Аднак ёсць падставы са скепсісам успрымаць інтэграцыйны праект, як і грунтоўныя прычыны сумнявацца, што Расія зможа дазволіць сабе выдаткі на тое, каб стацца цэнтрам гэтай групоўкі. Напрыклад, каб пабудаваць моцныя палітычныя і эканамічныя структуры, а не проста займацца палітычным піярам на аснове інтэграцыйнай рыторыкі, патрэбныя добры фінансавы стан і трывалыя эканамічныя вынікі, а для Расіі ў найбліжэйшай будучыні гэта досыць сумнеўная перспектыва.

Па-трэцяе, дапамагаючы Беларусі выйсці з крызісу, Расія пасылае адкрытыя сігналы Украіне і пацвярджае, што не кіне краін-"партнёраў" у цяжкія часы.

Па-чацвёртае, робіцца ўсё больш зразумела, што Расія зацікаўленая ў тым, каб Лукашэнка заставаўся прэзідэнтам Беларусі (прынамсі, у кароткатэрміновай перспектыве), і паспрабуе дамагчыся ягонай лаяльнасці не толькі смачнейшымі "пернікамі", але і даўжэйшай "пугай". Другое можа азначаць, што каб загнаць у кут Лукашэнку, які ў 2012 г. цалкам можа зноў перастаць слухацца, Расія, магчыма, паспрабуе ўкладаць грошы ў альтэрнатыўную беларускую палітыку.

*Расія зацікаўленая ў тым, каб Лукашэнка заставаўся прэзідэнтам Беларусі*

Што ўвогуле вынікае для Беларусі з таго, што Расія выцягвае яе з даўгавой ямы?

З палітычнага гледзішча, новы прыток рэнтаў стабілізуе сітуацыю і зводзіць да мінімуму напружанасць у грамадстве, выкліканую эканамічным крызісам. Так, было б наіўна чакаць у найбліжэйшай будучыні палітычнай лібералізацыі: улады зацікаўленыя ў захаванні атмасферы страху, каб не дапусціць грамадскіх хваляванняў і пераходу эліты на бок апанентаў.

З эканамічнага гледзішча, новы прыток рэнтаў зноў адкладзе правядзенне ўсялякіх эканамічных рэформаў. Хоць праграма ўрада на 2012 г. выглядае адносна рацыянальнай і паслядоўнай і прадугледжвае пачатак скарачэння бюджэтных выдаткаў, можна чакаць, што схільнасць Лукашэнкі да макраэканамічнага папулізму пераважыць усе рацыянальныя аргументы і ён павялічыць выдаткі, каб падвысіць свой рэйтынг, які ў верасні 2011 г. упаў да 20,5%.

З геапалітычнага гледзішча, аднаўленне прытоку расійскіх рэнтаў пагоршыць перспектывы дыялогу з Еўразвязам. У святле новай сітуацыі Беларусь не толькі не мае патрэбы ў пазыках МВФ, але і не вымушаная ісці на палітычныя саступкі Еўразвязу і ЗША. У сваю чаргу, гэта азначае, што на цяперашні момант няма рэальных механізмаў уздзеяння, якія змушалі б беларускія ўлады вызваліць палітычных вязняў і задаволіць патрабаванні Брусэля датычна змен у выбарчым заканадаўстве і правядзення "сумленных" парламенцкіх выбараў.

На цяперашні момант у гульні паміж Брусэлем і Масквой за сумежныя тэрыторыі, відавочна, выйграе Масква. Падыходы Еўразвязу да Беларусі не далі плёну і прывялі ў тупік: цяпер беларуская палітычная эліта нават не разглядае Еўразвяз як магчымую крыніцу фінансавай і палітычнай падтрымкі. Трэба прызнаць агульны правал палітыкі ўцягвання Беларусі, якую праводзіў Еўразвяз: яму няма чаго прапанаваць Беларусі. Аднак Беларусь з радасцю аднавіла б дыялог з Еўразвязам, калі а) той адмовіцца ад стратэгіі абумоўленасці і палітычных патрабаванняў (а гэта амаль немагчыма) і б) калі Расія пачне патрабаваць ад Беларусі зашмат або парушыць раней-шыя пагадненні.

Наагул горкая праўда палягае ў тым, што Беларусь уцягваецца ў сферу расійскага ўплыву і цягам бліжэйшых гадоў Еўразійскі Саюз будзе мець актуальнасць. Хоць гэта і не азначае поўнага палітычнага паглынання Беларусі Расіяй, але Захад мусіць перафармуляваць сваю стратэгію і прызнаць той факт, што, каб дэмакратызаваць Беларусь, ён мусіць прапанаваць краіне беспрэцэдэнтна магутныя стымулы (калі казаць канкрэтна, паскоранае прыняцце ў Еўрасаюз у тым выпадку, калі Беларусь вырашыць праблему дэмакратычнага кіравання, або істотную макраэканамічную падтрымку ўраду ў абмен на эканамічныя рэформы).

На цяперашні момант бітва 2011 г. за дэмакратычную Беларусь прайграная, але вайна – не.

**Аляксей ПІКУЛІК, Дзяніс МЕЛЬЯНЦОЎ, BISS**

# Чаго хоча інвестар?

**Прыцягненне замежных інвестыцый – адна з актуальных задачаў для беларускай эканомікі. Менавіта гэта стала адной з апошніх тэмаў для абмеркавання ў межах кампаніі “Народная праграма” (Prahrama.by).**



Беларусь зрабіла стратэгічную памылку, абраўшы самаізаляцыю, адзначае эканаміст **Антон Балточка**: “*Мы не змаглі адаптавацца да зменлівых умоў развіцця сусветнай супольнасці. На працягу 20 гадоў мы застаемся незаўважнай краінай з патокам уваходзячых прамых замежных інвестыцый (ПЗІ) ў памеры не больш за 0,1% ад агульнасусветнага ўзроўню*”. У 2010 годзе назапашаныя ўваходзячыя ПЗІ Беларусі складалі ўсяго $ 9 940 млн. (0,05% ад назапашаных у свеце). Зыходныя ПЗІ Беларусі за 2010 год склалі толькі $ 43 млн. (назапашаныя $ 204 млн.).

Прыцягнутыя ПЗІ ў бягучым годзе ў памеры $ 3,8 млрд. (у тым ліку $ 2,5 млрд. ад продажу «Белтрансгазу») аказалі мізэрны ўплыў на эканоміку краіны. Каб гэта зразумець, варта зірнуць на іх структуру. З усяго аб’ёму $ 770 млн. інвестыцый было накіравана ў рэальны сектар эканомікі, з якіх толькі $ 560 млн. выдаткавана на актыўную частку капіталу, што складае менш за 15%.

Калі паглядзець на Беларусь знутры, можна заўважыць, што за папярэднія 10 гадоў «унікальная» сацыяльна-арыентаваная эканамічная мадэльператварылася ў самаедную сістэму, кажа эксперт. Па яго словах, інвестыцыі ў асноўны капітал забяспечваліся за кошт крэдытавання альбо прамога субсідавання.

Дэклараванае чыноўнікамі павелічэнне тэмпаў росту капіталаўкладанняў забяспечана за кошт трохразовай дэвальвацыі беларускага рубля і высокай імпартаёмістасці абсталявання, што закупляецца для мадэрнізацыі вытворчасці. Небяспечная тэндэнцыя можа працягнуцца ў наступным годзе, прагназуе Балточка. У краіне неабходна кардынальна памяняць падыход да бізнэс-клімату, даводзіць эксперт “Народнай праграмы”.



Эканамічны аналітык **Сяргей Чалы** разважае наконт таго, чаго хоча інвестар: “*Усё, што арыентавана на ўнутраны попыт, для патэнцыйных інвестараў малапрывабна. Прычына – падзенне гэтага самага попыту. І, наадварот, інвестарам цікавыя сферы, звязаныя з айчыннай сыравіннай базай і якія маюць экспартны патэнцыял*”.

Менавіта ў такіх галінах адбываецца кансалідацыя, прыватызацыя, выйграюцца аўкцыёны. Напрыклад, гэта сельская гаспадарка, у прыватнасці малочная галіна, прывабная дрэваперапрацоўка, асабліва мэблевая вытворчасць.

Асноўная наша праблема заключаецца ў тым, што ў нас засталіся буйныя прамысловыя вытворчасці, арыентаваныя ў свой час на СССР, кажа Чалы. Яны падтрымліваліся на плаву за кошт дзяржаўных інвестыцый, аднак за гэты час сур’ёзна адсталі ад канкурэнтаў.Зараз робяцца спробы стварэння холдынгаў з іх удзелам, аднак гэты працэс ідзе не надта паспяхова.

Найбольш праблематычныя, у тым ліку ў плане прыцягнення інвестыцый, галіны высокага перадзелу у адрозненне ад нізкага перадзелу, як то нафтаперапрацоўка ці вытворчасць мінеральных угнаенняў.

Нарэшце, інвестараў адпужваюць ўмовы, што выстаўляюцца ўладамі, якія засцерагаюцца, што беларускія прадпрыемствы паскупляюць і зачыняць: “*Таму вылучаюцца патрабаванні па захаванні профільнасці і іншыя. Асцярогі што да беспрацоўя неапраўданыя. У той жа Расіі дастаткова бязбольна перажываюць рэструктурызацыю. А ў нас жа больш кваліфікаваныя работнікі. І ў Расіі ім гатовыя плаціць у 2,5-3 разы больш. Пры захаванні цяперашняга стану рэчаў існуе сур’ёзная пагроза адтоку кадраў. Улады гэтую праблему шляхам мадэрнізацыі прадпрыемстваў і стварэння прывабных працоўных месцаў не вырашаюць*”.



Палітолаг **Андрэй Ляховіч** зазначае, што важна і тое, адкуль ідуць інвестцыі, бо наша краіна знаходзіцца паміж геапалітычнымі палюсамі: “*Дачыненні з адным з іх – гэта спадчына імперыі пад кіраваннем Расіі. У гэтым сэнсе расійскія інвестыцыі пахнуць небяспечна. Відавочна, што ўкладанні Масквы не толькі эканамічныя, але і палітычныя*”.

У выніку дысбалансу на карысць расійскіх інвестыцый, кажа эксперт, створыцца лобі, якое зможа не толькі кантраляваць як самі нашы стратэгічныя прадпрыемствы і фінансавыя патокі ад іх, але і павялічыць уплыў на кіруючыя эліты.

“*Інвестыцыі ў нашым выпадку бяспечныя тады, калі будуць дэмакратычныя ўлады, празрыстыя адмысловыя працэдуры, а таксама раўнавага, што тычыцца крыніц замежнага капіталу. Інвестыцыі з Захаду – гэта падтрымка незалежнасці Беларусі і яе еўраінтэграцыі*”, – лічыць Ляховіч.

# Брэнд Беларусі

**Ці рэальна стварыць пазітыўны і прывабны брэнд "Беларусь" пры існуючай палітычнай сістэме? Чым Беларусь можа выгодна адрозніваცца ад сваіх суседзяў у рэгіёне, у чым яе перавагі і ўнікальнасць? Што можа стаць станоўчым сімвалам Беларусі, яе слоганам? Брэндаванне Беларусі – тэма абмеркавання "Народнай праграмы".**

Бакалаўр эканамічных навук **Паўлюк Канавальчык** адзначае, што "*выбудова іміджу нацыянальнай дзяржавы з паспяховым перанясеннем гэтага іміджу ў вонкі гэтак жа важна, як тое, што дзяржава выробляе і прадае*".



Эксперт адзначае, што спробы сфармуляваць План дзеянняў па развіцці г.зв. "краінавага маркетынгу" Рэспублікі Беларусь, што прадпрымаюцца ўрадам, ні да чаго разумнага не прывялі. А лапезны ж тэрмін «краінавы маркетынг» – гэта не што іншае, як беларуская мястэчковая версія прынятага ўва ўсім свеце паняцця *nation branding* – "нацыянальны брэндынг".

Дык што ж можа ўяўляць сабой брэнд "Беларусь", акрамя дзяцей Чарнобылю, сотні страў з бульбы ды статусу апошняй дыктатуры ў Еўропе? Паводле эксперта, міжнародны рэйтынг нацыянальных брэндаў *The Anholt-GfK Roper Nation Brands Index* складаецца паводле наступных крытэрыяў: людзі, улада, экспарт, турызм, культуры і спадчына, інвестыцыі і іміграцыя.

Калі дастасаваць гэтыя крытэрыі да сучаснай Беларусі, то вымалёўваецца наступная карціна, кажа Канавальчык:

"*Так, беларусы – любім сябе пахваліць – талерантная памяркоўная нацыя, якая валодае высокімі паказчыкамі сярэдняга ўзроўню кваліфікаванасці і культурнасці. Праўда, усё больш беларусаў шукае прымянення сваім талентам не ў сябе на Радзіме, а за мяжой*".

З уладай, па яго словах, "*на першы погляд усё зразумела. З пункту гледжання Захаду, не зіхацім мы ані дэмакратыяй, ані правасуддзем, ані празмерным багаццем грамадзянаў. Але гэта пункт гледжання Захаду. Калі зірнуць на Беларусь з вышыні Вялікай кітайскай сцяны або з берагоў Пярсідскага заліву, то не ўсё так у нас блага. Нават наадварот – палітычная стабільнасць і парадак, практычна ўсё вырашаецца на самым высокім узроўні, любое буйное знешнеэканамічнае пагадненне робіцца з ведама ўраду і пад яго гарантыі і г.д. Так што, напрыклад, кітайскі наменклатуршчык і арабскі шэйх адчуваюць сябе ў сучаснай Беларусі вельмі камфортна*".

> "Галоўны патэнцыял нашай краіны – гэта ўласна самі беларусы"

Што тычыцца экспарту: "*Большасць экспартных пазіцый, што засталіся нам у спадчыну ад Савецкага Саюзу, – трактары, грузавікі, кар'ерныя самазвалы, халадзільнікі і інш. – проста не вытрымліваюць сучаснага ўзроўню канкурэнцыі, і нават не паводле ўзроўню якасці, а з-за адсутнасці ўцямнай маркетынгавай палітыкі. Іншы кавалак савецкай спадчыны – экспарт узбраенняў і мадэрнізацыя ваеннай тэхнікі – упарта хаваецца ў цяню, ніяк не адлюстроўваючыся ў паказчыках ВУП*".

З развіццём турызму асаблівыя надзеі звязвае шмат хто: "*Але зноў жа, большасць замежнікаў не лічыць нашу прыроду ўнікальнай у параўнанні, скажам, з Польшчай ці Літвой. Па пальцах можна пералічыць захаваныя гістарычныя помнікі – замкі, цэрквы, касцёлы, сядзібы знакамітых продкаў. Вядома ж, знойдзецца публіка, якая прывабіцца помнікамі сацыялізму, але яна нешматлікая*".

Кіраўнік праекта Marketing.by **Сяргей Скараход** лічыць, што "*рабіць цукерку з нашай краіны, якая за апошні год страціла ўсе прыкметы цывілізаванасці, свядомасці і адэкватнасці – архіскладаная задача. Ды й ці задача гэта ўвогуле ў сітуацыі, калі ў краіне не адбываецца сістэмных рэформ і зменаў, накіраваных на паляпшэнне жыцця ў найбліжэйшай будучыні. Калі няма стратэгіі развіцця, пра які імідж даводзіцца казаць? Няма асновы, значыць, няма і іміджу. Усё астатняе – устрасанне паветра*".



А каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!" **Севярын Квяткоўскі** адзначае, што галоўны патэнцыял нашай краіны – гэта ўласна самі беларусы:



"*У нас на дадзены момант асноўны экспарт – гэта не трактары і мазы, а чалавечы рэсурс. У прынцыпе, гэта было заўсёды, але апошнім часам гэты працэс становіцца ўсё больш інтэнсіўным. І нашы людзі сапраўды запатрабаваныя. Так, зараз на сваёй працы яны могуць паліць на працягу паўгадзіны і піць каву палову рабочага дня. Але як толькі яны трапляюць за межы краіны ў адпаведныя ўмовы,як толькі з'яўляецца стымул, нашы людзі хутка адаптуюцца да любых патрабаванняў і пачынаюць эфектыўна працаваць*".

# Паштоўкі для палітзняволеных

Прыхільнік Руху, вядомы блогер **Юрась Навіцкі**, які па сфабрыкаваным абвінавачванні адбывае 15 сутак арышту і вымушаны сустракаць Новы год за кратамі, намаляваў паштоўкі для палітзняволеных. На сайце Рух.by (дакладны адрас: *http://рух.by/bel/naviny/ruh/1579*) іх можна спампаваць, раздрукаваць і даслаць тым, хто зараз пазбаўлены волі за свае перакананні. Альбо – натхняйцеся і малюйце самі!










КОНКУРС

# Пабудзь прэм’ер-міністрам

**Уявіце, што ў вас ёсць магчымасць вызначыць дзеянні новага ўрада Беларусі: што б вы зрабілі ў першую чаргу?**

Складзіце сваю праграму дзеянняў “Дзесяць крокаў новай улады”. Спіс рэформаў можа тычыцца любой сферы, але лепш, калі вы не будзеце зацыклівацца на нейкім адным кірунку.

Прыдумайце слоган сваёй праграмы дзеянняў і выкладзіце ўсё гэта на сцяне **Facebook.com/prahrama** (не забудзьцеся націснуць LIKE і “Share”).

Пераможцы будуць вызначацца сярод аўтараў пастоў, якія сабралі найбольшую колькасць “лайкаў”, экспертнай радай “Народнай праграмы”. Лепшыя “рэфарматары” атрымаюць прызы ў выглядзе флэшкі на 8 ГБ, а актыўныя ўдзельнікі – кнігі і майкі.

ЭКАНОМІКА

# “Мінімалка” ў ЕС і Беларусі

**Пастановай ураду з 1 студзеня 2012 года памер мінімальнай заработнай платы ў Беларусі ўстаноўлены на ўзроўні 1 000 000 рублёў.**

Нулёў шмат, але што з таго, калі беларусы ўсё будуць запар мільянерамі? Наша “мінімалка”– гэта ўсяго толькі 120 долараў, або 91 еўра. Мінімальны гадзінны заробак устаноўлены ў памеры 5 930 рублёў (70 амерыканскіх цэнтаў).

А што ў суседзяў? Для параўнання, мінімальная месячная зарплата ў Расіі сёння складае 4611 мясцовых рублёў, ці 1 235 000 беларускіх рублёў у эквіваленце. Таксама не густа.

Аналагічна Украіна – 1004 грыўні, або на некалькі дзясяткаў тысяч беларускіх рублёў больш, чым ў нас. У наступным годзе “мінімалка” там вырастае на 10%.

У Польшчы з новага года мінімальная зарплата таксама павялічыцца – да 1500 злотых. Пералічваем патрыятычна ў беларускія рублі – 3 705 000. У 3,5 разы больш, чым у нас!

У Латвіі “мінімалку” пакідаюць на ранейшым узроўні ў 200 латаў (3 мільёны 150 тысяч Br).

Газета выдаецца Рухам “За Свабоду”. Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 28.12.2011 г. Кантакты Рэдакцыі: тэлефон: 2808863, е-пошта: info@рух.by